„NIWA“ TYGODNIK BIAŁORUSKI – CENA 60 gr.



# Ніва



№ 25 (69) БЕЛАСТОК, 23 ЧЭРВЕНЯ 1957 г. ГОД II

У 75 гадавіну

## ЯНКА КУПАЛА

25 чэрвеня — дзень, які ўвесь беларускі народ адзначае, як юбілей (75 гадавіна з дня нараджэння і 15 гадавіна з дня смерці) вялікага класіка беларускай літаратуры — Янкі Купалы. У святкаванне юбілею ўключаецца і польскае насельніцтва.

Чаму мы так урачыста адзначаем Купалаўскі юбілей? Таму, што шануем Купалу, як вялікага чалавека і паэта, лацэньваем яго агромнае значэнне для беларускай і ўсёй славянскай літаратуры.

Янка Купала належыць да слаўнай плеяды беларускіх культурных дзеячоў, якія складаюць гордасць і славу беларускага народа. Ён увайшоў у гісторыю беларускага вызваленчага руху і мастацкай літаратуры як паэт-патрыёт, паэт - барацьбіт, дастойны выражальнік таленавітасці, творчых сіл і здольнасцей свабодалюбівага беларускага народа. «Усю сваю звонкую сілу паэта», усё сваё жыццё Купала аддаў барацьбе за інтарэсы і шчасце свайго народа.

Янка Купала (Іван Дамінікавіч Луцэвіч) нарадзіўся 25 чэрвеня (ст. ст.) 1882 г. у фальварку Вязынка, былога Вілейскага павета, Мінскай губерні ў працоўнай сялянскай сям'і. Бацькі паэта не мелі ўласнай зямлі і вымушаны былі арандаваць яе ў памешчыкаў. «Трэба было, — успамінаў пазней Купала, — працаваць на памешчыка, уласніка той зямлі, якую я павінен быў араць і засяваць». З самага маленства будучы паэт прылучыўся да працы. На ўласным вопыце зведаў ён усе жахі бяспраўя і эксплуатацыі, што выпалі на долю працоўнага беларуса ў дакастрычніцкі час.

Умовамі асабістага жыцця пастаўлены ў непасрэднае дачыненне з народам і кроўна з ім звязаны, Купала глыбока пранікаецца яго рэвалюцыйнымі імкненнямі, яго гневам і абурэннем супроць царскага самадзяржаўя, памешчыкаў і капіталістаў.

Купала — выдатнейшы паэт - рэаліст. Рэалістычнаму адлюстраванню жыцця ён вучыўся ў самага народа, у лепшых прадстаўнікоў беларускай, рускай і украінскай літаратуры. Мастацкай асновай, на якой рос і фарміраваўся рэалістычны талент Купалы, быў беларускі фальклор і багацейшая літаратурная спадчына рускіх, украінскіх і беларускіх перадавых пісьменнікаў. У аўтабіяграфіі і асабістых пісьмах Купала неаднаразова паказваў на пераемную сувязь сваёй творчасці з паэзіяй Пушкіна, Кальцова, Некрасава, Шэўчэнкі. Але асабліва моцны ўплыў на развіццё светапогляду і творчасці Я. Купалы зрабіў А. М. Горкі.

Галоўны ўплыў перадавых рускіх і украінскіх пісьменнікаў, у прыватнасці Некрасава, Горкага, Шэўчэнкі і другіх на Купалу ішоў па лініі рэалізма і народнасці.

Багаты беларускі фальклор меў вялікае значэнне і ўплыў на творчасць беларускага песняра. Вось што сказаў аб вытоках творчасці Янкі Купалы Якуб Колас: «Паэзія Янкі Купалы сваімі вытокамі выходзіць з глыбіні народнай творчасці. Яна насычае яго музу, дае яму сапраўдную сілу народнага песняра — баяна і выводзіць яго на вяршыню народнага мастацтва. Не з тэорыі паэзіі, не з кніжных крыніц чэрпае Купала чары сваёй паэзіі, а непасрэдна бярэ іх з самага жыцця, з наглядання над ім, з чыстых крыніц народнай мудрасці, з светапогляду свайго народа, з прывабнага хараства беларускай прыроды. Гэтыя чары ён чуе ў песнях сваёй маці ў дні маленства, у шуме родных лясоў і гаёў».

Творы Купалы так блізкія да народа, што многія з іх сталі бытаваць у народзе, як творы самага народа.

Ярка вызначаючаяся песеннасць твораў Купалы, іх народнасць, зрабілі глыбокі ўплыў на беларускую музыку, спрыялі нараджэнню беларускага раманса і песні, кантаты і оперы. Над музыкай да твораў Купалы працавалі не толькі беларускія, але рускія, украінскія і літоўскія кампазітары. З беларускіх кампазітараў працавалі, між іншым, такія, як: Пукст, Аладаў, Багатыроў, Чуркін, Палкавыраў, Палонскі, Цікоцкі, Яфімаў і інш. Ужо нават у 1910 годзе ў Вільні была выдадзена песня кампазітара Рагоўскага, на словы верша «А хто там ідзе». Значэнне гэтай песні ў той час раўнялася беларускаму гімну.

Творчасці Янкі Купалы ўласціва моцнае, патрыятычнае пачуццё, асабліва ў дакастрычніцкі перыяд. У той час яго патрыятычныя вершы абуджалі ў беларусаў нацыянальную свядомасць, заклікалі да барацьбы. У часе вайны патрыятычныя вершы Купалы памагалі беларускаму народу змагацца з нямецкім ворагам.

Янка Купала не толькі выдатны паэт. Многа ён зрабіў і для беларускай драматургіі. Яго п'есы: «Раскіданае гняздо», «Паўлінка», «Прымакі», маюць непраходзячае значэнне і паказваюць Купалу, як таленавітага драматурга.

Купала таксама і выдатны перакладчык. Сваімі высокамастацкімі перакладамі твораў шматлікіх паэтаў з польскай, украінскай, рускай моваў, ён узбагаціў беларускую літаратуру. На асаблівую ўвагу заслугоўвае сапраўды мастацкі пераклад Янкам Купалам «Слова аб палку Ігаравым» з старажытнарускай мовы на сучасную беларускую мову. Пераклады зробленыя Янкам Купалам былі першымі совецкімі перакладамі гэтага твора.

Гаворачы аб значэнні Янкі Купалы для беларускай літаратуры, нельга прамінуць яго вялікія заслугі ў галіне развіцця беларускай літаратурнай мовы. Асновай для купалаўскай творчасці была багатая народная мова беларусаў, якую Купала ўмела выкарыстоўваў ствараючы новую літаратурную беларускую мову. Ён адзін з першых адлюстраваў у сваіх творах багацце слоўнікавага саставу беларускай мовы, паказаў, як трэба карыстацца жывым народным словам. Такім чынам, бяручы за аснову жывую мову народа, Купала стварыў багатую беларускую літаратурную мову, для якой з аднаго боку характэрна прастата і народнасць, а з другога — высокамастацкія літаратурныя вартасці.

Літаратурная мова, створана Янкам Купалам і Якубам Коласам, з незначнымі зменамі жыве па сённяшні дзень.

Яшчэ хочацца коратка падкрэсліць значэнне Янкі Купалы, як актыўнага грамадскага дзеяча. Ад 1913—1915 года Янка Купала быў у Вільні рэдактарам газеты «Наша Ніва». Пасля рэвалюцыі прымае ўдзел у стварэнні Беларускага Дзяржаўнага універсітэта і ў арганізацыі Акадэміі навук БССР, выхоўвае маладых беларускіх паэтаў пісьменнікаў. Праз доўгія гады быў нязменным членам праўлення Саюза пісьменнікаў СССР і БССР, быў дэпутатам Вярхоўнага Совета БССР, правадзейным членам двух акадэмій — Акадэміі навук БССР і Акадэміі навук УССР. Але нягледзячы на тое, Купала заўсёды быў простым праўдзівым чалавекам, блізкім свайму народу.



**Янка Купала 25.VI.1882 – 28.VI.1942 г.**

ШТОТЫДНЕВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



